


Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

18 красавіка 2014 года №16 (990)

# Віншуем з Вялікаднем!

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Пачнуць адключаць ацяпленне

**МАЛАДЗЕЧНА. ВІЛЕЙКА.** Найбольш верагода, што ў Маладзечне ацяпленне будуць адключаць з панядзелка. Як паведаміў намеснік начальніка Маладзечанскіх электрасетак **Леанід Кузняцоў**, у першую чаргу спыняць падачу цяпла ў жылым сектары. У Вілейцы рашэнне па адключэнні пакуль не прынятае. Каб адключылі цяпло, трэба, каб сярэднясутачная тэмпература на працягу трох дзён не дасягала плюс 8 градусаў, – паведаміў галоўны інжынер Вілейскай ЖКГ **Валянцін Сусла**.

### Канферэнцыя ў гонар Ядвігіна Ш.

**МАЛАДЗЕЧНА.** Навукова-краязнаўчая канферэнцыя "Асветнік з Карпілаўкі", прысвечаная 145-годдзю Ядвігіна Ш., пройдзе ў Маладзечне. Яна адбудзецца 22 красавіка ў цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Максіма Багдановіча. Пачатак у 11 гадзін.

**Аддзел інфармацыі.**



# Івянец. Пабачыць пуп зямлі

**ВАЛОЖЫН. Гэты дом адразу бачны з дарогі. Не заўважыць яго немагчыма. Бо дзе сёння пабачыш драўляныя балваны проста на жылым доме? А вось на доме Пупко яны ўжо не адзін дзясятак гадоў.**

*Працягваем вандроўку ў мястэчка Івянец на Валожыншчыне. Пачатак у папярэднім нумары "РГ".*

Пад'язджаем да дома і бачым, што цяпер тут ідзе рамонт. У правай частцы ўжо стаяць шклопакеты. На двары – будаўнічыя матэрыялы і хлопец у рабочай форме.

Дзверы ў дом адчыненыя, клічам гаспадароў і праз колькі хвілін з'яўляецца **Соф'я Апалінараўна**.

**Аляксандр Манцэвіч**, рэдактар нашага выдання, ужо быў у гэтым доме. Праўда, яшчэ недзе ў 1978 годзе. Тады яго сустракаў бацька спадарыні Соф'і, **Апалінар Фларыянавіч**. Балваны – яго рук справа. Як і распісаныя сцены ў доме, карціны, самыя розныя драўляныя вырабы.

Тады спадар Аляксандр спытаўся ў творцы, адкуль жа ў яго прозвішча такое.

– Пуп зямлі тут! Вось і я Пупко, – сказаў Апалінар Фларыянавіч.

– Бацька быў жартаўнік, ён і сапраўды мог так сказаць, – ківае гаспадыня і праводзіць нас у пакой, сцены якога яшчэ ў юнацтве распісаў яе бацька.

Ад таго часу ніколі рамонту ў гэтай частцы дома не рабілі.

– Дом будаваў мой дзед. Тут, у пакоі, захавалася першапачатковая тынкоўка, да якой ніхто ні пад якім выглядам ніколі не дакранаўся. Ужо ўсё пачынае руйнавацца, а як гэта спыніць... Нам, простым смертным, вельмі складана. І я баюся, што ў адзін дзень гэта можа знікнуць, – перажывае спадарыня Соф'я.

Прыгадаць, як гэта ўсё распісвалася, дачка мастака не змагла. І не таму, што забылася. Сведак папросту няма ў жывых, бо Апалінар распісваў пакой яшчэ юнаком.



Фота Настассі РОЎДЫ.

Соф'я Апалінараўна, дачка мастака Апалінара Пупко з Івянца, не так даўно пераехала ў дом, дзе жыў бацька. У яе архіве ёсць здымак, дзе Апалінар Фларыянавіч стаіць гэтак сама ў дзвярах. Той здымак бацькі яе любімы.

Толькі ў калідоры праз колькі часу ён паверх ранейшага роспісу зрабіў новы. Летась было 120 гадоў з дня нараджэння творцы. А гэта значыць, роспісу на сценах як мінімум гадоў 90 ці нават 100.

Працяг на 20-21-й старонках.

**Настасся РОЎДА, Наталля ТУР.**

● ЧЫГУНКА

# 23 і 24 красавіка зменены расклад цягнікоў рэгіянальных ліній эканом-класа

**МАЛАДЗЕЧНА. З-за рамонту чыгуначнага моста на ўчастку Маладзечна-Мінск рух будзе зменены.**

У чацвер, 24 красавіка, электрычкі з Маладзечна будуць ісці толькі да станцыі Уша. Адтуль пасажыраў перавязуць аўтобусамі паміж узгодненымі рэйсамі да станцыі Алёхнавічы, адкуль электрычкай яны даедуць да Мінска.

24 красавіка цягнікі рэгіянальных ліній эканом-класа будуць рухацца па наступным раскладзе:

**Маладзечна-Полацк** адпраўленнем з Маладзечна ў 08:54 будзе адпраўляцца ў **09:05** і прыбываць у Полацк у 13:16;

**Маладзечна-Гудагай** адпраўленнем з Маладзечна ў 06:28 будзе адпраўляцца ў **07:02** і прыбываць у Гудагай у 08:19;

**Маладзечна-Гудагай** адпраўленнем з Маладзечна ў 08:50 будзе адпраўляцца ў **09:12** і прыбываць у Гудагай у 10:50;

**Гудагай-Маладзечна** адпраўленнем з Гудагая ў 10:43 будзе адпраўляцца ў **11:03** і прыбываць у Маладзечна ў 12:37.

24 красавіка прызначаюць **узгодненыя цягнікі** рэгіянальных ліній эканом-класа

| Уша-Маладзечна | | Маладзечна-Уша | |
|---|---|---|---|
| 02:22 | 02:52 | 03:51 | 04:21 |
| 06:22 | 06:52 | 05:03 | 05:33 |
| 07:13 | 07:43 | 05:53 | 06:23 |
| 08:39 | 09:09 | 07:40 | 08:10 |
| 09:51 | 10:21 | 08:42 | 09:12 |
| 10:56 | 11:26 | 10:01 | 10:31 |
| 12:56 | 13:26 | 11:00 | 11:30 |
| 14:13 | 14:43 | 13:23 | 13:53 |
| 16:37 | 17:07 | 14:54 | 15:24 |
| 17:38 | 18:08 | 16:22 | 16:52 |
| 18:46 | 19:16 | 17:27 | 17:57 |
| 20:07 | 20:37 | 18:25 | 18:55 |
| 21:36 | 22:06 | 19:52 | 20:22 |
| 22:46 | 23:16 | 21:52 | 22:22 |

| Алёхнавічы-Мінск | | Мінск-Алёхнавічы | |
|---|---|---|---|
| 05:11 | 06:18 | 00:26 | 01:32 |
| 06:23 | 07:27 | 04:37 | 05:32 |
| 07:13 | 08:20 | 05:18 | 06:23 |
| 09:00 | 10.09 | 06:35 | 07:49 |
| 10.02 | 11:18 | 07:47 | 09:01 |
| 11:20 | 12:36 | 08:52 | 10:06 |
| 12:20 | 13:34 | 10:50 | 12:06 |
| 14:43 | 15:58 | 11:53 | 13:07 |
| 16:14 | 17:25 (да Мінск-Паўночны) | 14:30 | 15:47 |
| 17:42 | 18:58 | 15:33 | 16:48 |
| 18:47 | 19:56 | 16:42 | 17:56 |
| 19:45 | 20:53 | 18:15 | 19:17 |
| 21:12 | 22:20 | 19:45 | 20:46 |
| 23:12 | 00:10 | 20:44 | 21:56 |

Будуць наступныя **змяненні** ў курсіраванні цягнікоў:

**23 красавіка адмяняюцца** цягнікі рэгіянальных ліній эканом-класа **Гудагай-Маладзечна-Мінск** адпраўленнем з Маладзечна ў **21:14**.

**24 красавіка адмяняюцца** цягнікі рэгіянальных ліній эканом-класа **Мінск-Гудагай** адпраўленнем з Мінска ў **06:02**, **17:55**, адпраўленнем з Маладзечна ў **07:38**, **19:21**,

**Гудагай-Мінск** адпраўленнем з Гудагая ў **08:00**, **19:48**, адпраўленнем з Маладзечна ў **09:20**, **21:14**.

**Адмяняюцца** цягнікі рэгіянальных ліній эканом-класа

| Маладзечна-Мінск | | Мінск-Маладзечна | |
|---|---|---|---|
| адпраўленне | прыбыццё | адпраўленне | прыбыццё |
| 06:33 | 08:15 | 09:26 | 11:10 |
| 15:51 | 17:37 | 12:45 | 14:32 |
| 18:35 | 20:13 | 17:27 | 19:11 |
| 20:41 | 22:25 | | |

● ПЫТАЙЦЕСЯ-АДКАЗВАЕМ

# Богаслужэнні па-беларуску ў Любані

**ВІЛЕЙКА. У храме Сабора беларускіх святых служба на беларускай мове будзе праходзіць кожную першую нядзелю месяца.**

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" паведаміў настаяцель прыхода храма Сабора беларускіх святых вёскі Любань іерэй **Ігар**.

Па словах айца Ігара, ініцыятыва першага богаслужэння на беларускай мове належала самім прыхаджанам.

Пасля літургіі, якая адбылася 6 красавіка, жыхары Любані прынялі актыўны ўдзел у абмеркаванні таго, што беларуская мова павінна часцей гучаць у храме. Чытачы пыталіся ў "РГ", ці стане гэта пастаяннай практыкай.

— Не толькі прыхаджане любанскай царквы, — тлумачыць айцец Ігар, — выказаліся за тое, каб мова гучала ў храме. Пасля літургіі мне тэлефанавалі прыхаджане з Бабруйска-Быхаўскай епархіі і сказалі, што і там пачалі вучыць тэкст богаслужэння па-беларуску. Святары, як ніхто, разумеюць, што наша мова — гэта дар, які даў нам Бог.

**Наталля ТУР.**

● УЛАДА

# У Мядзеле і Вілейцы старшыні раённых Саветаў дэпутатаў засталіся ранейшыя

**ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ. Прайшлі першыя сесіі раённых Саветаў дэпутатаў дваццаць сёмага склікання ў Мядзельскім і Вілейскім раёнах.**

Старшынёй Мядзельскага раённага Савета дэпутатаў зноў абраны **Алег Бароўка** (на гэтай пасадзе ён працаваў і ў мінулым скліканні). Яго намеснікам стаў **Ігар Барысавец**.

На Вілейшчыне старшыня раённага Савета дэпутатаў таксама не змяніўся.

На першай сесіі на гэту пасаду зноў абрана **Наталля Радзевіч**. Намеснікам старшыні стаў **Мікалай Гіро**.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота Кацярыны КАСЦЕВІЧ.

Сяргей Трус з Краснага ці не ўсё сваё жыццё займаецца вырошчваннем груш, яблынь, сліў, агрэсту, парэчак.

ЗАХАПЛЕННІ

# Гаспадар саджанцаў Сяргей Трус з Краснага

**МАЛАДЗЕЧНА. Садавод Сяргей Трус з мястэчка Краснае працуе ў гадавальніку "Бацяˮ. Яго і самога часта так называюць знаёмыя за дасведчанасць у садаводстве.**

Сяргей – агрaном, спецыяліст па раслінах. У свае 78 год ён вырошчвае розныя віды груш, яблынь, сліў, агрэсту, парэчак, суніц. Садаводы яго добра ведаюць і ўсім кажуць: "Паглядзі, якія ў Сяргея Восіпавіча пладавітыя саджанцы".

Усё сваё жыццё Сяргей Трус аддаў прыродзе. Яшчэ малым пяцігадовым хлопчыкам у яго быў абавязак у сям'і – саджаць дрэўцы каля плоту. Хадзіў у лес, акуратна выкопваў бярозкі ці рабінкі і перасаджваў. А цяпер бярэ гатовыя чаранкі новага сорту і вырошчвае іх.

**Сваёй справе садавод вучыць і ўнука васьмікласніка Даніла Касьяна, які дапамагае дзядулю.**

## Дрэвы не гавораць, але адказваюць

У гэты час яго сад паціхае прачынаецца ад зімы: набухаюць пупышкі на дрэўцах, на кустах чорных парэчак з'яўляюцца першыя лісточкі.

Сяргей Восіпавіч адкрыў сакрэт свайго поспеху:

– Каб вырасціць дрэва ці іншую расліну, мала проста пасадзіць і палiваць. Трэба любіць яе, бо яна ж таксама жывая. Хоць і не можа гаварыць, але адчувае ўсё, што адбываецца навокал. Вось вырошчваеш дрэўца, чакаеш, пакуль вырасце. Гэта такое задавальненне! Я клапачуся, каб быў плод смачны, салодкі. І як прыемна чуць ад людзей добрыя словы, што такія смачныя ў мяне грушы ці яблыкі.

Многія садаводы цікавяцца, як ён вырошчвае такія саджанцы, просяць парады, каб і сабе такія займаць.

**Кацярына КАСЦЕВІЧ,**
**школа маладога журналіста пры рэдакцыі "РГ".**

ЗДАРЭННІ НА ДАРОЗЕ

## Тры пасажыры шпіталізаваныя ў выніку аварыі ля Талуці на Вілейшчыне

**ВІЛЕЙКА.** Каля дзесяці гадзін вечара 14 красавіка адбылося дарожна-транспартнае здарэнне на аўтадарозе Мінск-Мядзел паблізу вёскі Талуць. Аўтамабіль "Форд Эскорт" з'ехаў у кювет і стукнуўся ў дрэва. Кіраваў машынай 28-гадовы мужчына.

У выніку тры пасажыры з траўмамі шпіталізаваныя. Каб дэблакаваць аднаго з іх з машыны, спатрэбілася дапамога выратавальнікаў. Яшчэ адзін пасажыр і кіроўца атрымалі лёгкія цялесныя пашкоджанні.

Папярэдняя версія здарэння – тэхнічныя няспраўнасці транспартнага сродку і няправільны выбар хуткасці, паведамляе дзяржаўтаінспекцыя Мінскай вобласці.

## Жодзінец збіў пяцікласніка ў Радашкавічах

**МАЛАДЗЕЧНА.** Хлопчыка, вучня пятага класа радашкавіцкай школы, шпіталізавалі са страсеннем мазгоў.

Пра гэта паведаміў дзяржааўтаінспектар Маладзечанскага райаддзела міліцыі **Сяргей Бартош.**

Днём у суботу, 12 красавіка, 44-гадовы кіроўца "Хундая-Акцэнт" з Жодзіна ехаў па вуліцы Савецкай у Радашкавічах. Калі ён праязджаў каля дома №18, з-за аўтобуса раптам выбег хлопчык, які хацеў перабегчы дарогу справа налева па ходу руху.

Кіроўца збіў хлопчыка. Той атрымаў чэрапна-мазгавую траўму і страсенне мазгоў. Школьніка шпіталізавалі ў маладзечанскую дзіцячую бальніцу.

## Кіроўца пражыў дзве гадзіны пасля аварыі

**МАЛАДЗЕЧНА.** Трагічны выпадак здарыўся ў Маладзечне ў нядзелю, 13 красавіка, каля 22 гадзін.

– 45-гадовы мужчына ехаў па Вялікім Гасцінцы з боку Насілава. Кіроўца аўтамабіля "Опель-Астра" няправільна выбраў хуткасць. На нязначным закругленні дарогі ўлева ён не справіўся з кіраваннем, выехаў на пешаходную дарожку і ўрэзаўся ў дрэва, – распавядае дзяржаўтаінспектар **Сяргей Бартош**.

Мужчына атрымаў закрыты пераломам правага сцягна, траўму груднoй клеткі і траўматычны шок. Яго шпіталізавалі ў рэанімацыю. Апоўначы ён памёр.

**Аддзел інфармацыі.**

| Курсы валют НБ РБ | 10.04 руб. | 17.04 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 9 920,00 | **9 940,00** |
| Еўра | 13 680,00 | **13 750,00** |
| Злоты | 3 283,74 | **3 284,38** |
| Літ | 3 962,53 | **3 985,57** |
| Расійскі рубель | 277,50 | **275,50** |
| Грыўня | 835,02 | **871,93** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 9900/9940 | 9930/9970 |
| Еўра | 13670/13750 | 13740/13810 |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 9.04 Цана руб. | 16.04 |
|---|---|---|
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 110900 | **110900** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 58650 | **52500** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 26800 | **26800** |
| **Ялавічына**, (выразка), 1 кг | 76000 | **77000** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 29500 | **28500** |
| **Селядзец**, 1 кг | 32500 | **33500** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 102000 | **102000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 12000 | **9700** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 8500 | **8500** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 13000 | **13000** |
| **Алей "Кум"** | 14500 | **14000** |
| **Маянэз**, 200 г | 5300 | **5000** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 6700 | **7500** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 28000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9000 | **9000** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 9000 | **8000** |
| **Капуста**, 1 кг | 11000 | **15000** |
| **Морква**, 1 кг | 6000 | **7000** |
| **Буракі**, 1 кг | 6000 | **6000** |
| **Лімоны**, 1 кг | 20000 | **20000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 14000 | **13000** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 16500 | **22000** |
| **Памідоры**, 1 кг | 23000 | **23000** |
| **Агуркі**, 1 кг | 25000 | **23000** |
| **Перац**, 1 кг | 35000 | **35000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 45000 | **44500** |
| **Бананы**, 1 кг | 18500 | **17900** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 8500 | **10000** |
| **Грушы**, 1 кг (Канферэнцыя) | 16000 | **16000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 13500 | **15000** |
| **Масла**, 1 кг | 80000 | **80000** |
| **Тварог**, 1 кг | 42000 | **45000** |
| **Бульба**, вядро 5 л | 20000 | **25000** |
| **Сала**, 1 кг | 55000 | **70000** |
| **Мёд**, 0,5 л | 50000 | **50000** |



Фота volgasib.ru.

У Вілейцы ў мужчыну, які хацеў дапамагчы хлопцам з Людвінова, стрэлілі з пнеўматычнага пісталета.

● КРЫМІНАЛ

# Замест удзячнасці стрэлілі ў галаву

**ВІЛЕЙКА. З пнеўматычнага пісталета стралялі ў мужчыну ў горадзе 7 красавіка за тое, што прапанаваў выклікаць "хуткую дапамогу".**

Пачалося ўсё з сустрэчы двух жыхароў вёскі Людвінова. Убачыліся яны на аўтавакзале ў Вілейцы. У чаканні аўтобуса выпілі піва.

На апошні аўтобус спазніліся. І каля васьмі гадзін вечара вырашылі ісці на выхад з горада. Там меркавалі злавіць спадарожную машыну, каб усё ж дабрацца ў вёску.

Адзін з хлопцаў, які "прыняў на грудзі" больш, на нагах трымаўся з цяжкасцю і падаў. А другі яму дапамагаў, падымаў.

Насустрач ішоў 58-гадовы віляйчанін. Убачыўшы незайздроснае становішча вяскоўца, падышоў да іх і прапанаваў выклікаць "хуткую дапамогу".

Але адказ хлопца (таго, што быў цверазейшы) быў нечаканы. Ён дастаў пнеўматычны пісталет і двойчы выстраліў у мужчыну з адлегласці каля двух метраў. Адзін металічны шарык трапіў віляйчаніну ў падбародак, а другі – у патыліцу.

У выніку мужчына атрымаў лёгкія цялесныя пашкоджанні. А незадачлівага стралка хутка затрымалі супрацоўнікі міліцыі.

**Аддзел інфармацыі.**

# Махлярка прысабечыла каля 600 мільёнаў рублёў

**СМАРГОНЬ. Смаргонскі райаддзел Следчага камітэта просіць адгукнуцца грамадзян, якія пацярпелі ад дзеянняў Святланы Сцяпанаўны Вакулінай.**

– У 2012-2013 гадах, з мэтай крадзяжу грошай, Святлана Вакуліна ўводзіла ў зман грамадзян, – распавядае начальнік райаддзела Следчага камітэта **Андрэй Рэзін**.

Схема падману была да наіўнасці простая. Махлярка прасіла людзей узяць крэдыт у банку на сваё імя. Гаварыла, што сама будзе штомесяц плаціць працэнты ў банк, але за гэта прасіла 50% ад сумы крэдыту. Калі чалавек афармляў крэдыт, Святлана Вакуліна дзяліла з ім суму папалам, забірала крэдытны дагавор з банка і знікала. Адзін з такіх крэдытаў быў на суму 50 мільёнаў рублёў. 25 мільёнаў атрымоўваў чалавек, 25 – Святлана Вакуліна.

Калі ж людзям, якія ўзялі крэдыт, пачыналі тэлефанаваць з банка з просьбай пагасіць запазычанасць, пацярпелыя звярталіся да спадарыні Вакулінай. Тая здымала трубку, прасіла прабачэння, гаварыла, што забегалася і забылася зайсці ў банк і што ў наступным месяцы абавязкова разлічыцца з банкам. На другі раз махлярка проста не падыходзіла да тэлефона.

**Ад злачынных дзеянняў Святланы Вакулінай пацярпела каля 50 чалавек.**

І самі пацярпелыя нярадка прыводзілі да смаргонскага "Астапа Бэндара ў спадніцы" сваіх знаёмых, якія таксама пакваціліся на лёгкія грошы.

У выніку сваёй злачыннай схемы Святлана Вакуліна "разбагацела" на 600 мільёнаў рублёў.

Смаргонскі райаддзел Следчага камітэта ўстанавіў, што ад дзеянняў грамадзянкі Вакулінай пацярпелі не толькі жыхары Смаргоні, але і жыхары Маладзечанскага і Ашмянскага раёнаў.

У сувязі з гэтым, смаргонскі райаддзел Следчага камітэта просіць грамадзян, якія пацярпелі ад дзеянняў Святланы Вакулінай, патэлефанаваць у смаргонскі Следчы камітэт па тэлефонах: **8-01592-3-26-58**, **8-01592-4-20-61**, або звярнуцца з пісьмовай заявай на адрас: Смаргонь, вуліца Савецкая, 25-а.

**Наталля ТУР.**

# Жанчыны абакралі пенсіянера

**ВІЛЕЙКА. У вёсцы Шчарачыха 10 красавіка абакралі пенсіянера.**

Апоўдні да яго ў хату зайшлі чатыры жанчыны. Папрасілі нож, каб парэзаць сала.

– Той пайшоў за нажом, адсутнічаў хвіліны тры-чатыры, – расказвае начальнік Вілейскага раённага аддзела Следчага камітэта **Мікалай Раманчук**. – Жанчыны парэзалі сала і выйшлі з дома. Пасля таго, як яны пайшлі, мужчына ўбачыў, што з шафы зніклі амаль усе грошы – 22 мільёны рублёў.

Узбудзілі крымінальную справу за крадзеж. Вядзецца расследаванне.

Мікалай Раманчук раіць вяскоўцам:

– У выпадку з'яўлення ў доме падазроных асоб, не пакідайце іх адных без нагляду. Бо бачыце: ім хопіць лічаных хвілін, каб знайсці і ўкрасці вашы грошы.

**Аддзел інфармацыі.**

● КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## Украў заплечнік, а тэлефон пакінуў

**МАЛАДЗЕЧНА. Здарэнне адбылося ў ноч на 14 красавіка. На раскрыццё злачынства аператыўнікам спатрэбілася 32 хвіліны.**

Пра здарэнне "Рэгіянальнай газеце" паведаміў старшы следчы Маладзечанскага аддзела Следчага камітэта **Юры Багушэвіч**:

– У суботу ноччу, 13 красавіка, 35-гадовая жанчына пешшу вярталася з дыскаклуба "Магніт", дзе адзначала дзень нараджэння сяброўкі.

У тры гадзіны ночы, у раёне дзіцячай стаматалагічнай паліклінікі, што па Вялікім Гасцінцы, на яе ззаду напаў невядомы. Мужчына схапіў жанчыну за шыю, пачаў душыць, патрабуючы, каб яна аддала яму заплечнік. Затым схапіў заплечнік і збег.

Пацярпелая ніякіх прыкмет нападніка, акрамя таго, што ў яго была доўгая палоска валасоў на скронях, не запомніла. Але гора-злодзей на месцы злачынства пакінуў свой мабільны тэлефон, які выпаў у яго з кішэні.

Нарад маладзечанскага аддзела дэпартамента аховы, які прыбыў на месца здарэння, літаральна праз паўгадзіны па прыкмеце затрымаў падазраванага. На момант затрымання заплечніка пры ім не было.

**Як аказалася, хаваючыся ад праваахоўнікаў, мужчына выкінуў заплечнік у адным з двароў. Нават грошай з яго не ўзяў. Чаму?**

Таму што ў жаночым заплечніку сярод ключыкаў, памадак, духоў, сурвэтачак ён проста не знайшоў кашалька. У якім, дарэчы, было ўсяго 270 тысяч рублёў. Заплечнік з усім змесцівам шчасліва вярнуўся да яго гаспадыні.

Што датычыцца нападніка, ім аказаўся 31-гадовы мясцовы жыхар, які раней двойчы быў судзімы за крадзеж. Цяпер ён працуе стропальшчыкам на адным з гарадскіх прадпрыемстваў.

Супраць падазраванага ўзбуджаная крымінальная справа па артыкуле рабаванне з гвалтам.

**Наталля ТУР.**

## Жарабя ўвалілася ў падвал знесенага дома

**АШМЯНЫ. У пятніцу выратавальнікам Ашмянскага РАНС давялося выязджаць у вёску Луды на неардынарны выпадак па выратаванні жывёлы.**

Як распавёў гаспадар жывёлы, жарабя пасвілася каля знесенага дома, ад якога застаўся толькі падвал, які нічым не быў закрыты. Жарабя і ўвалілася ў гэты падвал.

Гаспадар спрабаваў сам выратаваць маладога коніка з палону, але ў яго нічога не атрымоўвалася. Тады ён папрасіў суседку патэлефанаваць у службу выратавання.

Выратавальнікам спатрэбілася менш за 20 хвілін, каб дастаць жывёлу жывой і здаровай.

Пра выпадак распавёў інспектар групы прапаганды і навучання Ашмянскага РАНС **Сяргей Лісоўскі**.

**Аддзел інфармацыі.**

ЭКАЛОГІЯ

# Экалагічны досвед прывезлі з Сербіі на Вілейшчыну

**ВІЛЕЙКА. З навучальнага візіту ў Сербію прыехалі прадстаўнікі Вілейшчыны, якія займаюцца распрацоўкай мясцовага экалагічнага плана.**

Візіт быў на пачатку красавіка. Падрабязнасцямі падзяліўся каардынатар па стварэнні мясцовага экалагічнага плана дзеянняў па Вілейскім раёне **Сяргей Ганчар:**

– Паездка праводзілася для таго, каб мы мелі больш шырокі погляд на тыя экалагічныя прыярытэты, якія разам з грамадскасцю і спецыялістамі вызначылі для распрацоўкі мясцовага экалагічнага плана дзеянняў. Арганізаваная яна ў межах падпісанага ў верасні мінулага года Вілейскім райвыканкам і рэгіянальным экалагічным цэнтрам для Цэнтральнай і Усходняй Еўропы пагаднення аб супрацоўніцтве па рэалізацыі ініцыятывы "Падтрымка ўстойлівасці планавання экалагічных мерапрыемстваў у населеных пунктах Беларусі і Малдовы".

Праграма паездкі была насычаная: канферэнцыя, "круглыя сталы", навучальныя паездкі на прадпрыемствы.

### Экалагічныя пытанні не толькі для спецыялістаў

Адно з вострых пытанняў, якое стаіць у тым ліку і ў Беларусі, – перапрацоўка бытавых адходаў. Мы наведалі ў розных гарадах станцыі, дзе ідзе сартаванне адходаў, прадпрыемствы, на якіх перапрацоўваюць розныя віды смецця.

**Два дні праходзіла міжнародная канферэнцыя па экалагічных пытаннях. У ёй удзельнічалі прадстаўнікі Беларусі, Малдовы, Сербіі, Албаніі, Босніі і Герцагавіны, Славеніі ды іншых краін. Было шмат дакладаў, прэзентацый па розных накірунках: ахова прыроды, кіраванне адходамі, якасць вады.**


Фота забяспечана Сяргеем ГАНЧАРОМ.

На станцыі па сартаванні адходаў у Белградзе яработнікі за працай.

**– Што найбольш уразіла падчас паездкі?**

– Тое, што нам паказвалі, у нейкай ступені ёсць на Беларусі – тая ж перапрацоўка адходаў, але было цікава бачыць іх напрацоўкі ў гэтай галіне.

**– Якія высновы зрабілі?**

– Галоўнае, што працаваць над вырашэннем экалагічных праблем неабходна не толькі спецыялістам, але і грамадскасці. Больш актыўна трэба працаваць у накірунку экалагічнага выхавання. Магчыма, гэта з'яўляецца яшчэ больш важным пытаннем, чым вырашэнне нейкіх праблем, бо з разумення праблемы ўсё пачынаецца. Важна, як мы адносімся да таго, што спажываем, адходаў і гэтак далей.

**– Чым карысны быў візіт?**

– Мы ўбачылі розныя бакі праблем, якія лічым важнымі. Вельмі карысна было наладзіць кантакты з іншымі арганізацыямі, прадстаўнікамі іншых краін, якія займаюцца падобнымі пытаннямі. Наша група з Беларусі складалася з прадстаўнікоў 10-ці раёнаў, а таксама Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. І мы таксама дзяліліся сваімі напрацоўкамі і досведам.

**– У размовах са спецыялістамі ці закраналі мясцовы экалагічны план дзеянняў для Вілейшчыны?**

– Так. У нас потым было пасяджэнне каардынатараў з Беларусі і Малдовы, і ў вольны час мы пра гэта гутарылі. У прынцыпе, сярод беларускіх груп ва ўсіх амаль аднолькавы падыход. Бо наша сістэма, што датычыць якасці вады, водаадвядзення, ужо наладжаная ў Беларусі, мы працуем з аднымі і тымі ж структурамі. А калі размаўлялі з малдаўскімі калегамі, то ў іх іншы падыход да гэтых пытанняў, пра што таксама вельмі цікава было даведацца. У іх пэўныя паўнамоцтвы канцэнтруюцца ў дзяржаўных установах, але шмат чым займаюцца і грамадскія аб'яднанні.

**– Што такое ўбачылі, што хацелася б укараніць на Вілейшчыне?**

– У Сербіі былі ў буйных гарадах, там у большасці мікраараёнаў арганізаваны асобны збор смецця: шкла, паперы, тэтрапакаў, бляшанак... Гэта ёсць і ў нас, але пакуль у меншым аб'ёме. Лічу, што гэты накірунак павінен больш развівацца, каб кожная сям'я, установа паасобку сартавала смецце ў кантэйнеры. З гэтым звязанае і пытанне экалагічнага выхавання: трэба ўсё гэта з дзіцячых садкоў прывіваць.

**– Пасля візіту ў Сербію прыярыты ў мясцовым плане экалагічных дзеянняў не змяніліся?**

**– Мы яшчэ больш ўпэўніліся, што тыя чатыры накірункі прыярытэтаў, якія мы выбралі, правільныя. Яны вельмі важныя не толькі для Вілейшчыны, але наогул для краіны.**

Гэта пацвяджаецца тым, што ў большасці раёнаў, якія задзейнічаныя ў ініцыятыве, выбралі практычна такія ж накірункі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Шаноўныя чытачы, а якія рашэнні па паляпшэнні экалогіі на Вілейшчыне параіце вы? Далучайцеся да абмеркавання на сайце**

Rh.by

### Прыярытэты мясцовага экалагічнага плана дзеянняў для Вілейшчыны:

1. Праблема забруджвання малой ракі Пляснянкі, у якую трапляюць сцёкавыя воды бытавой каналізацыі.
2. Кіраванне камунальнымі адходамі – правядзенне далейшай працы па раздзельным зборы смецця і далейшай перапрацоўцы цвёрдых бытавых адходаў.
3. Якасць вады ў каналах, рэках і азёрах – гэта стан Вілейскага вадасховішча.
4. Стан існуючых зялёных зон, паркаў, а таксама месцаў адпачынку і развіццё зялёнага турызму.



**Папраўка**

У нумары №15 ад 11 красавіка ў матэрыяле "Змяніліся старшыні сельсаветаў" дапушчаная недакладнасць. Пасаду старшыні сельсавета ў Палачанах заняў Уладзімір Лазар, у Алёхнавічах – Ганна Фурс. Просім прабачэння ў чытачоў.

БІБЛІЯТЭКІ

# У бібліятэку ў Сасновым Бары прыходзяць цэлымі дынастыямі

**МАЛАДЗЕЧНА. У пасёлку Сасновы Бор каля 300 чалавек – гэта чытачы, якія пастаянна прыходзяць у мясцовую бібліятэку. Але і тыя, хто не могуць наведваць бібліятэку самастойна, без увагі не застаюцца.**



Фота Наталлі ТУР.

Што Генава Трус любіць сваю работу, сведчыць і тое, што на яе працоўным стале стаіць паштоўка, на якой напісана: "На работу з душой".

Да кожнага з 10 такіх жыхароў пасёлка бібліятэкарка **Генава Трус** ходзіць сама.

– У пасёлку жывуць чацвёра інвалідаў, якія не могуць хадзіць, і яшчэ шэсць састарэлых людзей, якім цяжка прыходзіць у бібліятэку. Таму я самастойна падбіраю ім кнігі, кладу іх у пакет і прыношу кожнаму дадому.

Генава Трус адзіная і нязменная мясцовая бібліятэкарка. Яна, дарэчы, і перавезла сюды бібліятэку.

У пачатку 80-х гадоў яе ў пасёлак перавезлі з вёскі Дровашы. Перавезлі тады каля 7000 кніг.

– Фонды былі яшчэ тыя, – успамінае Генава Іосіфаўна, – пераважала сельскагаспадарчая тэматыка. Вельмі тады вялікую працу зрабілі, каб прывесці фонд у норму. Але былі кніжкі, якія і сёння карыстаюцца попытам сярод чытачоў...

Генава Іосіфаўна паказвае мне збор твораў Пушкіна 1949 года выдання.

**– Што, акрамя класікі, чытаюць вашы чытачы?**

– Час дыктуе свае правілы. Цяпер людзям больш цікава чытаць забаўляльную літаратуру: дэтэктывы, любоўныя раманы. Хаця, павінна вам сказаць, у апошні час узрасла цікавасць да беларускай літаратуры. Калі раней чыталі, у асноўным, дзеці па школьнай праграме Мележа ды Караткевіча, то цяпер часцей прыходзяць дарослыя і пытаюцца пра сучасных беларускіх аўтараў.

**У бібліятэку – у зялёных шкарпэтках**

У гэты час дзверы бібліятэкі адчыняюцца і заходзіць першы чытач на сёння. Гэта мясцовая жыхарка **Рэгіна Літвін.** Я гляджу на яе і не разумею, што мяне бянтэжыць. І толькі праз хвіліну да мяне даходзіць: жанчына без абутку. Перад тым як зайсці ў бібліятэку, спадарыня Рэгіна разулася ў калідоры.

Рэгіна Літвін, пастаянная чытачка бібліятэкі, кажа:

– Я прачытала больш за 300 бібліятэчных кніг. Калі прыходжу ў чарговы раз, заўсёды перабіраю паліцы, шукаю, што яшчэ пачытаць.

– У мяне такіх пастаянных чытачоў шмат, – хваліцца Генава Іосіфаўна, – прыходзяць і сем'і, і нават дынастыі. Самых першых чытачоў я таксама помню. Сям'я **Міхайленкаў.** Спачатку прыходзілі муж з жонкай, потым сталі наведваць бібліятэку трое іх сыноў. Цяпер у кожнага з сыноў свае сем'і, свае дзеці, і яны таксама мае чытачы.

Яшчэ часта прыходзяць **Вольга і Сяргей Януковічы.** Сяргей, у сілу сваёй занятасці, просіць жонку, каб тая ўзяла яму кнігу. Кажа: "Генава Іосіфаўна ведае мой густ, хай параіць, што яшчэ пачытаць".

Ці вось чытачка **Галіна Сакові**ч прыходзіць у бібліятэку і кажа: "Я, напэўна, хутка энцыклапедыі пачну чытаць, бо ўсё ўжо перачытала". Хаця фонд наш папаўняецца прыкладна раз на квартал.

**Бывае, што пенсіянеры тэлефануюць, пытаюцца, як і што рабіць у той ці іншай сітуацыі. Тады даводзіцца даставаць падшыўкі часопісаў з рознымі парадамі і шукаць адказы на пытанні, якія турбуюць маіх чытачоў. Потым збіраемся ў бібліятэцы і за кубкам чайку абмяркоўваем розныя тэмы.**

Сасноваборская бібліятэка актыўна працуе з маленькімі чытачамі. Для іх тут і часопісы каляровыя, і кніжкі самыя новыя. І, акрамя гэтага, ладзіцца яшчэ шмат мерапрыемстваў.

У сакавіку ў бібліятэцы прайшоў флэшмоб "Любімая кніга". У межах гэтага конкурсу дзеці не толькі абмяняліся ўражаннямі ад прачытаных кніг, але і вызначыліся лепшыя чытачы. Чытачом года стала пяцікласніца **Дар'я Марыганава**, якая прачытала за 2014 год 23 кніжкі. Такія мерапрыемствы бібліятэка праводзіць разам з філіялам "Сонечны" цэнтра творчасці дзяцей і моладзі "Маладзік", якім тут кіруе **Галіна Іванькіна.**

**"Мая каронная роля – дохлая норка"**

**– Генава Іосіфаўна, адкуль у вас такое незвычайнае імя?**

– Я ўвогуле жанчынагадка, – жартуе мая суразмоўца. – Нарадзілася ў Эстоніі, бацька пайшоў запісваць мяне як Генавефу, але ў эстонскім ЗАГСе недачулі і запісалі, як Генаву. Да гэтага ў мяне захоўваецца пасведчанне аб нараджэнні, дзе імя разабраць не проста.

А дома мяне называлі Геняй ці Жэняй.

**– А як дзяўчына з Эстоніі апынулася ў Сасновым Бары пад Маладзечнам?**

– Прыехала да сваякоў, калі збегла з дому з-за надакучлівага кавалера, які там не даваў мне праходу. Спачатку было цяжка. Ведаеце, калі я прыехала сюды, у Сасновым Бары былі ўсяго два дамы. А потым тут сустрэла свойго мужа і засталася назаўжды. Жылі тут, пакуль кватэру ў горадзе не атрымалі.

**– Бібліятэкарам працаваць не сумна?**

– Мне сумаваць няма калі. Кожны дзень прыходзяць людзі, адбываюцца нейкія падзеі. Вы па вуліцы Міру сюды ішлі. Назву гэту я сама дала вуліцы, калі дэпутатам была ў савецкі час. У пасёлку чатыры "мае" вуліцы: Зялёная, Міру, Кастрычніцкая і Юбілейная. А калісьці я марыла стаць актрысай, вось цяпер у самадзейнасці рэалізую сваю мару дзяцінства.

**– Чаму толькі марылі, а не сталі?**

– Я ў школе займалася ў тэатральным гуртку, які курыраваў курс Ленінградскага тэатральнага інстытута, на якім вучыўся Міхаіл Баярскі, Алена Драпека. Потым паехала паступаць у тэатральную акадэмію. Але я маленькая, худзенькая была, такая Лія Ахеджакава, а ў той год на курс набіралі высокіх, доўганогіх дзяўчат. А калі дэкан факультэта стаў мне на нешта там такое намякаць, я спужалася і збегла. Але ні пра што не шкадую. Тут, у Сасновым Бары, я Баба Яга са стажам. І яшчэ была ў мяне каронная роля – дохлая норка. Яе я іграла на мерапрыемстве нашай зверагаспадаркі.

Калі на адным з капуснікаў іграла ролю Бабы Ягі, я прыдумала такую хітрасць. У бібліятэцы тады адсутнічала ацяпленне. Дык вось, я спіс усіх патрабаванняў напісала ў жартаўлівай форме быццам ад імя Бабы Ягі і аднесла **Аляксандру Рамановічу**, загадчыку аддзела культуры, які прысутнічаў на мерапрыемстве. І што вы думаеце, ацяпленне падключылі.

**– Самі якія кнігі чытаеце?**

– Кнігі са шчаслівай канцоўкай. Каб у іх было сапраўднае каханне і прыгожыя ўчынкі. Шмат чытаю жаночых часопісаў, часопісаў па кулінарыі. Вельмі люблю гатаваць. Але самы мой любімы рэцэпт, гэта рэцэпт салаты "Папараць-кветка": бяром вараную курыцу ці мяса, апараную цыбулю пакольцамі, памідор ці марынаваны агурок, усё змешваем з маянэзам і таматным соусам.

...Выходжу з бібліятэкі, на ганку сядзяць два каты. "Таксама чытачы?" – пытаюся ў Генавы Іосіфаўны.

– Так, штодзень мяне сустракаюць з аўтобуса, чакаюць гасцінцаў з Маладзечна. Відаць, я ў мінулым жыцці была кошкай, таму што гэтыя жывёлы мяне ніколі не абмінаюць, адчуваюць, што я іх ніколі не пакрыўджу.



**Наталля ТУР.**
E-mail: turenok_08@mail.ru

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## Талакой прыбяруць могілкі ў Вязыні

**ВІЛЕЙКА.** У суботу, 26 красавіка, вілейская суполка "Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры" ладзіць талаку-суботнік на старых каталіцкіх могілках у вёсцы Вязынь.

Будзем прыбіраць тэрыторыю могілак каля царквы і праводзіць апісанне магіл.

Прапануем усім ахвотным далучыцца да гэтай справы.

Пачынаем суботнік а 10 гадзіне раніцы. Па ўсіх пытаннях звяртайцеся па тэлефоне 873-72-95 (мтс).

**Дзяніс КАНЕЦКІ, старшыня вілейскай суполкі "Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры".**

МУЗЕІ

## Пройдзе выстава маладой мастачкі

**ВІЛЕЙКА.** У зале выстаў імя Сілівановіча краязнаўчага музея 25 красавіка адбудзецца адкрыццё выставы "ART.O." маладой мастачкі **Вольгі Пескавой** з Вілейкі. Пройдзе яна ў рамках праекта ART-Вілейка "Творчы шлях".



Фота забяспечана Вольгай Пескавой.

Мастачка Вольга Пескавая.

– На выставе будзе выстаўлена каля 30 прац мастачкі ў розных стылях і тэматыцы, – паведаміла навуковы супрацоўнік краязнаўчага музея **Надзея Аўдзей**.

Пачатак выставы а 17 гадзіне.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Івянец. Пабачыць пуп зямлі

**ВАЛОЖЫН. Гэты дом адразу бачны з дарогі. Не заўважыць яго немагчыма. Бо дзе сёння пабачыш драўляныя балваны проста на жылым доме? А вось на доме Пупко яны ўжо не адзін дзясятак гадоў.**

*Працяг. Пачатак на 1-й старонцы.*


Фота Настассі РОЎДЫ.

На сцяне, каля якой стаіць Соф'я Апалінараўна, вісіць яе партрэт (зверху справа), які намаляваў Апалінар Пупко, калі яна вучылася ў 10 класе.

## Дом абраў Фрунзе

Аднойчы Фрунзе ішоў па вуліцы і заўважыў гэты дом. Яму ж якраз патрэбна было жытло. Пагутарыў з бабуляй спадарыні Соф'і і хутка засяліўся ў вольны пакой.

– Фрунзе бацьку агітаваў, каб той вучыўся, – распавядае дачка творцы. – Але ў яго не было такой магчымасці. Ён адзін застаўся са старой маці, не да вучобы было. Хаця гэта і не вельмі нашкодзіла яго творчасці. Не дадало вартасці і не зменшыла. Засталася самабытнасць.

Мая маці, яе звалі **Леанарда Іпалітаўна**, заўсёды крытыкавала бацьку: там сіметрыя не вытрымаая, там яшчэ што. Я таксама так лічыла ў дзяцінстве. А сёння…

## Лічыў сябе беларусам

У пакоі шмат прац Апалінара Фларыянавіча звязана з рэлігіяй. Зроблены нават асобны куток для малітваў.

– Мама была веруючая, а ён – зацяты атэіст. Але бацька вельмі любіў маму і ўсё гэта рабіў для яе. Я цяпер ужо разумею, што біблію ён успрымаў як той жа міф, мастацкі твор. Не больш. Наконт рэлігіі яны вельмі шмат спрачаліся. Ён любіў пацяшацца над маці. Яму падабалася, што маці сярдуе.

Соф'я Апалінараўна паказвае нам на адну з карцін:

– Бачыце? Гэта ж анёл. Але крылы намаляваныя паверх карціны звычайнай крэйдай.

Некалі ў доме быў хтосьці з партыйных дзеячаў і зрабіў Апалінару заўвагу, што нешта зашмат рэлігійнай тэматыкі. І пасля гэтага мастак замаляваў анёлу крылы. Яго ж жонка не пагадзілася з гэтым і намалявала іх паверх фарбы звычайнай крэйдай.


Фота volozhin.gov.by.

Апалінар Пупко на парозе майстэрні. Канец 70-х ці пачатак 80-х гадоў мінулага стагоддзя.


Фота Настассі РОЎДЫ.

Крылы анёлу жонка Апалінара Леанарда дамалявала звычайнай крэйдай.

Але тэма рэлігіі была не адзінай "вечнай" у сям'і. Спрачаліся і наконт нацыянальнасці.

– У таты бацькі абое палякі, – кажа дачка мастака. – А ён запісаў сябе ў беларусы. І вельмі катэгарычна да гэтага ставіўся. Маці яго ўвесь час папракала: "Як гэта можа быць? Бацькі палякі, а ты – беларус?"

## Працы прадалі, а грошы прапалі

Музей у Івянцы адкрылі ў 1955 годзе, пэўны час Апалінар там працаваў.

Да сваіх работ ставіўся беражліва, прадаваць іх не хацеў.

– Калі бацька памёр, маці прадала яго працы аднаму музею, а грошы прапалі ўвогуле. Мы нават не паспелі імі скарыстацца, яны ў перабудову зніклі, і ўсё. Жахліва атрымліваецца. Тата ўсё жыццё вельмі даражыў гэтымі працамі. Калі іх забіралі на выставы і, здаралася, штосьці не вярталі своечасова, то ў яго пачыналася паніка. Ён быў настойлівы і цюкаў да таго часу, пакуль яму не знойдуць і не вернуць усё да апошняй рэчы. Прадаваць ён нічога не хацеў.

## Як гэта – жыць у музеі

Мы ўсё не маглі зразумець: Соф'я Апалінараўна нарадзілася і правяла дзяцінства не інакш, як у музеі. Але саму яе гэта зусім не здзіўляе.

– Я тут нарадзілася і ўсё гэта бачыла ад першых дзён. Таму і не здавалася яно асаблівым. Паўсюль у доме было шмат розных вырабаў. Бацька садзіўся на крэсла каля акна і рэзаў па дрэве цэлымі днямі.

## Што гэта быў за чалавек

– Ён быў сам у сабе. Каб з намі шмат размаўляў, то не. Толькі калі маленькая была. Памятаю, у будні ён падымаўся раней, а ў нядзелю любіў паляжаць. Маці ўжо ўставала, а мы прачыналіся і беглі да яго ў ложак. Тады ён пачынаў нам розныя гісторыі расказваць, – паглыбляецца ў дзяцінства спадарыня Соф'я. – Альбо зімой. У нас была вялізная печ, і бацька па вечарах нам на печы расказваў розныя смешныя гісторыі са свайго дзяцінства.

У сям'і было трое дачок: старэйшая, Элеанора, ад першага шлюбу, Вікторыя і Соф'я. Калі яна нарадзілася, Апалінару было ўжо 64 гады.

Памятае спадарыня Соф'я, што шмат усяго было ў іх на гарышчы:

– Але маці не вельмі гэтым даражыла. Бацька ж заўсёды паўтараў: ніколі нічога нельга выкідаць. Праз тыдзень, праз год, праз сто гадоў гэта будзе вельмі дорага каштаваць. Не ў сэнсе грошай, бо грошы яго не цікавілі, а ў тым сэнсе, што гэта будзе мець вартасць.

Там захоўвалася вельмі шмат газет, часопісаў. Бацька збіраў усе нашы сшыткі, дзённікі. Мне ў дзяцінстве вельмі падабалася лазіць на гарышча і рыцца ва ўсім гэтым.

Мама ж мела манеру "чысціць ціхенька". Яна была вельмі акуратная. Бацька нікуды не хадзіў, акрамя як кожную нядзелю ў бібліятэку і за малаком. Так было прынята. Мама знаходзіла хвілінку і, як толькі бацька за дзверы, адразу ўжо штосьці-небудзь ішла выкідаць, паліць. Ён пра гэта так і не даведаўся. Гэта быў бы жах. Ён, калі трэба, мог быць жорсткім.

Увогуле мае старэйшыя сёстры выхоўваліся ў строгасці і тату вельмі баяліся. Гэта ўжо я сябе паводзіла, быццам мне ўсё дазволена. Мама часам казала: "Прыйдзеш позна, святло паўсюль паўключаеш, а я дрыжу, што бацька можа закаціць скандал, бо позна прыйшла ці занадта смела сябе паводзіш". Сёстрам даставалася за такія выхадкі. Ён быў розны, як і ўсе людзі.

**Даведка "РГ". Апалінар Пупко** (12.11.1893 – 18.6.1984). Нарадзіўся ў Івянцы на Валожыншчыне. Беларускі самадзейны майстар разьбы па дрэве. У сваёй творчасці працягваў лепшыя традыцыі беларускай народнай драўлянай скульптуры.

**Больш фота на сайце**




**Удакладненне**

У папярэднім нумары "РГ" трэба чытаць так: "Самы незвычайны дом у Івянцы з драўлянымі балванамі".



Івянецкі краязнаўца Алег Раманоўскі.

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.



Івянецкая кераміка, якая захоўваецца ў мясцовым музеі.

Фота Настассі РОЎДЫ.



Фотаздымкі івянчан пачатку 20-га стагоддзя.

Фота Настассі РОЎДЫ.

# Мястэчка Вітаўта, багіні Жывы і івянецкіх паненак

**ВАЛОЖЫН. Івянчане да сёння насміхаюцца з недалёкасці жонак рускіх афіцэраў, самі змяняюць пастановы Савета Міністраў і крыўдзяцца на тое, што некаторыя называюць Івянец шараговым мястэчкам.**



Гісторыі, якія расказвала дырэктарка Івянецкага музея Валянціна Адамовіч, прымушалі ўсміхацца не толькі слухачоў, але і яе самую.

Фота Настассі РОЎДЫ.

Знаёмства з **Алегам Раманоўскім**, мясцовым краязнаўцам і былым дырэктарам музея, і **Валянцінай Адамовіч**, цяперашняй дырэктаркай музея, канчаткова пераканалі нас у тым, што Івянец – вельмі загадкавае месца.

– Самая распаўсюджаная, але малаверагодная версія, што назва мястэчка паходзіць ад слова іва, як і Іўе. Але існуе версія, што ў паганскія часы тут была гара, на якой пакланяліся багіні Жыве. І на балтыйскіх мовах назва мястэчка гучала як Жывéнец, – кожную гісторыю, якую расказваў Алег Раманоўскі, ён расказваў так, быццам сам прысутнічаў пры ўсіх гістарычных падзеях. І пра пасяленні Вітаўта, і пра званы, якія адносна нядаўна вярнулі ў касцёл, і пра жыццё і маладосць Дзяржынскага, які таксама нарадзіўся ў гэтых месцах. Але была адна гісторыя, дзе без Алега Раманоўскага не абышлося.

## Як сам змяніў назву мясцовай школы

– У 1990-х гадах, падчас перабудовы, мянялі шыльды, пячаткі ўстаноў. Мяне папрасілі зрабіць эскіз пячаткі школы. На той час школа называлася "Івянецкая сярэдняя школа імя Дзяржынскага". Я зрабіў пячатку з Пагоняй у цэнтры. І наўмысна проста напісаў: "Івянецкая сярэдняя школа". Здалі на зацвярджэнне ў Валожын. Я ўжо падумаў, што калі раптам заўважаць, што на пячатцы няма імя Дзяржынскага, буду апраўдвацца тым, што забыўся. Але там не ведалі, чыя пастанова, раптам Міністэрства? Пячатку зацвердзілі. Так у школе і з'явілася цяперашняя назва, ужо без імя Дзяржынскага.

– Вы лічыце сябе краязнаўцам? – пытаемся ў Алега Фядосавіча. На што той усміхаецца і адказвае:

– Хацелася б думаць, што я мастак. Вучыўся ў Віцебскай мастацкай акадэміі разам з маладзечанскім мастаком **Міколам Аўчыннікавым.** У 70-х гадах пераехаў у старажытнае мястэчка Івянец. На плошчы былі гандлёвыя рады пачатку стагоддзя, якія загадалі разбурыць толькі тады, калі святкавалі 100-годдзе з дня нараджэння Дзяржынскага. Пасябраваў тут з **Апалінарам Пупко.** Была з ім такая гісторыя звязаная.

## Як Харашэвіч палатно пакінуў

– **Кастусь Харашэвіч** прыехаў у Івянец пісаць карціну. Раптам пайшоў дождж. Ён пакінуў сваю пачатую работу ў Апалінара Пупко, а сам пайшоў на станцыю глядзець, калі аўтобус на Маладзечна. І акурат у гэтую гадзіну аўтобус адыходзіў. І з'ехаў. А палатно пакінуў. Тады Апалінар Пупко мяне прасіў: "Патэлефануй мастаку таму маладзечанскаму, спытай, ці будзе ён палатно забіраць". Патэлефанаваў, Харашэвіч адказаў, каб я перадаў Апалінару, што той можа маляваць на ім сам, палатно забіраць не будзе. Як тады ўзрадаваўся івянецкі мастак! Ён жа пісаў на фанерках, дошчачках, а тут прафесійнае загрунтаванае палатно.

З Алегам Раманоўскім мы сустрэліся ў музеі традыцыйнай культуры. Ён тут былы дырэктар, але і сёння жаданы госць.

Экскурсію ж па музеі правяла нам яго цяперашняя гаспадыня, **Валянціна Адамовіч:**

– Маладзечанцы ў нас вельмі рэдкія госці. Усе аўтобусы з турыстамі ідуць на Нясвіж без прыпынку, хоць маршрут і праходзіць праз Івянец. А мы, між іншым, імкнёмся рабіць усё для наведнікаў. У нас быў выпадак, калі патэлефанавалі людзі з Мінска, заказалі экскурсію, сказалі, што вельмі хочуць у нашым музеі папрактыкавацца ў ганчарстве.

Апісваць усю экскурсію па музеі – справа няўдзячная. Рабіць гэтага мы не будзем, тым больш, калі будзе жаданне, вы заўсёды зможаце яго наведаць. Іншая справа – гісторыі, якія прыгадала Валянціна Адамовіч пра мясціны, дзе нарадзілася і жыве.

## На шпацыр у камбінашках

– Івянец заўсёды быў мястэчкам, у якім жылі далёка не бедныя людзі. Нават на пачатку 20 стагоддзя на здымках Тышкевіча (копіі якіх прадстаўленыя ў экспазіцыі музея) відаць, што дзяўчаты апранутыя ў строі, якія ткалі не самі, а набывалі гатовымі ў краме. У мястэчку жыло шмат яўрэяў, якія трымалі свае лаўкі. У кожнай краме можна было набыць тавар на вэксаль. Гаспадары сваім пастаянным кліентам не забываліся рабіць падарункі на святы. У 20-х гадах Івянец быў пад уладай Польшчы, прыгранічным мястэчкам. Жонкі польскіх афіцэраў, канешне, дыктавалі моду. Так было да 1939 года, калі ў Івянец прыехалі савецкія афіцэры са сваімі сем'ямі. Жонкі афіцэраў Чырвонай Арміі ў мясцовых крамах накупілі прыгожых карункавых кашуль...

А вечарам жыхары ўсяго мястэчка ледзьве не пакаціліся ад смеху, калі гэтыя "лэдзі" выйшлі на праменад па вуліцы амаль у споднай бялізне.

Івянец, дзякуючы таму, што побач нарадзіўся Дзяржынскі, свой статус шляхетнага мястэчка не згубіў нават у савецкія часы. І дарогі тут былі добрыя, і асартымент у крамах, якому можна толькі пазайздросціць.

– У 80-х гадах у нас у краме было столькі абутку, што вы, цяперашнія модніцы, лопнулі б з зайздрасці, – па-івянецку хваліцца дырэктарка музея. – У мяне, напрыклад, калі я была школьніцай, ужо былі самыя модныя боты-панчохі.

...І гаворка зноў пераключылася на гісторыю гэтага незвычайнага мястэчка. Разважаючы пра былую славу Івянца, наш рэдактар Аляксандр Манцэвіч кажа: "А што, можа тады (стагоддзе таму) Івянец быў большым за Маладзечна. У Маладзечне тысячы тры жыхароў было, а ў Івянцы, можа, чатыры".

– Чатыры з паловай тысячы жыхароў, – на поўным сур'ёзе папраўляе рэдактара Алег Раманоўскі.

Вось такі ён, Івянец.

**Старонкі "Наш рэгіён" падрыхтавалі:**



**Наталля ТУР.**
E-mail:
turenok_08@mail.ru



**Настасся РОЎДА**
E-mail:
nastya.rovdo@gmail.com
Skype:
nastya_rovdo

МІНІ-ФУТБОЛ

# Чаму чэмпіёны? Таму што згуртаваныя

**МЯДЗЕЛ. Абыграўшы ўсіх мясцовых сапернікаў, каманда Мядзела заканамерна заняла першае месца ў чэмпіянаце раёна па міні-футболе. Капітан каманды Віктар Гіль аналізуе, што паспрыяла перамозе, і канстатуе, што ўзровень чэмпіянату расце.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Капітан каманды Мядзела па міні-футболе Віктар Гіль.

**– Як удалося перамагчы?**

– Маё меркаванне такое: выйгралі за кошт таго, што ў нас згуртаваная каманда. З дзяцінства ведаем адзін аднаго, у футбол гуляем. Доўгі час трэніруемся разам. Раней, як не было ў Мядзеле фізкультурна-аздараўленчага цэнтра, у зале санаторыя "Сосны" гулялі.

Таксама ўважліва разбіралі прайшоўшыя гульні. І пасля мінулага сезона было моцнае жаданне рэабілітавацца. Мы настройваліся тады на перамогу, але не атрымалася, былі трэцімі.

Прытым, наша каманда ўзроставая – сярэдні ўзрост каля 37-ці год. З аднаго боку, гэта перашкаджае гуляць, бо сілы ўжо не тыя, але затое досвед ёсць.

**– Ці адбыліся змены ў складзе ў параўнанні з мінулым чэмпіянатам?**

– Узмацніліся адным гульцом – да каманды далучыўся **Валодзя Рагель**. Але ён і раней з намі трэніраваўся.

**– Хто, апроч вас, у складзе каманды?**

**– Яўген Лаеўскі, Віктар Карзевіч, Анатоль Байко, Аляксандр Клечка, Уладзімір Рагель, Аляксандр Падбярэзскі, Генадзь Койра, Аляксандр Якубоўскі, Антон Шыдлоўскі, Віктар Качарго.**

**– Які самы складаны матч быў у чэмпіянаце?**

– З мінулагоднім чэмпіёнам – камандай "Зубраня". Там маладыя хлопцы гуляюць – практычна ўсім да 30 год, шмат бегаюць. Барацьба была вельмі ўпартай. Выйгралі матч з лікам 5:4. Уключылі ўсе свае магчымасці. І пашчасціла нам больш: моманты былі і ў іх, і ў нас. Мы свае рэалізавалі.

**– Чэмпіянат праводзіўся ў другі раз. Што пра яго ўзровень скажаце?**

– Узровень камандаў расце – узяць тыя ж каманды райвыканкама, СДЮШАР, іншыя. Вельмі добра, што заявілі дзіцячую каманду "Юніёр". Трэба, каб больш дзіцячых камандаў удзельнічала – для таго, каб іх узровень рос. Бо мы ўжо старэем, неабходна, каб змена была. Добра, што ўдзельнічала ў чэмпіянаце каманда з Пастаў (яна гуляла па-за конкурсам). Моцная каманда, у гульнях з ёй набываеш досвед.

**– Якія планы на наступны чэмпіянат?**

– Будзем старацца ўтрымаць першае месца. Заўсёды складаней утрымаць тытул, чым заваяваць яго, бо на гульні з чэмпіёнам іншыя каманды сур'ёзна настройваюцца.



Алесь ВЫСОЦКІ.
E-mail:
alvy@tut.by

ФУТБОЛ

## Чэмпіянат вобласці пройдзе па новай формуле

**МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА, ВАЛОЖЫН. Дзве лігі чэмпіянату вобласці па футболе аб'ядналы ў адну. А яна падзелена на дзве групы па тэрытарыяльнай прыкмеце.**

У групе "А" згуляюць каманды з нашага рэгіёна. Гэта "Вілія" (Вілейскі раён), "Валожын-2010" і два прадстаўнікі Маладзечаншчыны: "Забудова-2007" і "Маладзечна-ДЮСШ-4"

Іх сапернікамі стануць каманды "Беразіно", "Жодзіна-2007", "Зорка-РФОЦ-Вікторыя" (Пухавіцкі раён), "Колас" (Чэрвеньскі), "Крупкі-ДРБУ-164", "СМІаўтатранс" (Смалявіцкі) і ФК "Барысаў".

Такім чынам, у групе, дзе гуляюць нашы землякі, 11 камандаў. У групе "Б" – 10.

Новую формулу правядзення чэмпіянату вобласці папрасілі пракаментаваць старшыню Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігара Шабана.**

– Лічу, што для нашай каманды гэта плюс. Менавіта, з эканамічнага пункту гледжання. Менш матчаў давядзецца праводзіць, адпаведна, і выездаў менш. Ды і ездзіць бліжэй – паколькі ў групе сабраныя каманды з бліжэйшых раёнаў. Значыць, і выдаткоўваць часу на выезды хлопцам давядзецца менш.

Калі глядзець па лідарах, групы атрымаліся прыкладна роўныя па сілах. У нашай групе апынуліся каманды, якія занялі летась другое і трэцяе месцы ў чэмпіянаце, у групе "Б" – першае і чацвертае.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

НАВІНЫ

### Лідзіруюць выратавальнікі

**ВІЛЕЙКА.** У панядзелак, 14 красавіка, завяршыўся першы круг чэмпіянату раёна па валейболе сярод мужчынскіх камандаў. Удзельнічаюць у ім пяць камандаў, якія гуляюць па кругавой сістэме.

Пакуль на першым месцы знаходзіцца каманда райаддзела па надзвычайных сітуацыях, якая выйграла ўсе матчы і мае 10 ачкоў. На другім месцы прадстаўнікі энергазбыту (восем ачкоў), на трэцім – "Першы Беларускі" (сем ачкоў). Пра гэта паведаміў інструктар-метадыст раённага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра "Імпульс" **Аляксандр Вайда**.

### Школьнікі спаборнічалі ў мнагаборстве

**ВІЛЕЙКА.** У райцэнтры 11 і 12 красавіка адбыліся раённыя спаборніцтвы сярод вучняў устаноў адукацыі па летнім мнагаборстве "Здароўе". Удзельнічалі ў іх шэсць камандаў. У складзе кожнай было па сем юнакоў і дзяўчат. Гэта вучні 5-11 класаў.

Спаборнічалі яны ў плаванні, скачках у даўжыню, гімнастыцы, бегу на 30 метраў і кіламетр, а старшакласнікі яшчэ ў стральбе з пнеўматычнай вінтоўкі.

У групе "А" перамаглі прадстаўнікі гімназіі №1 "Логас", паведаміла дырэктар раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі **Жанна Скуратовіч**. На другім месцы каманда вілейскай гімназіі №2, на трэцім – сярэдняй школы №5.

У групе "Б" была прадстаўлена адна каманда – Чурлёнскага сада-школы. Яна паказала добрыя вынікі, не горшыя за гарадскія ўстановы адукацыі.

### Смаргонцы зноў перамаглі ў таварыскім матчы

**СМАРГОНЬ.** У Ашмянах 12 красавіка ФК "Смаргонь" правёў таварыскі матч з клубам "АЛФ-2007" (Мінск). Гульня завяршылася з лікам 3:1 на карысць смаргонцаў. Галы ў іх забілі **Дубай**, **Мархель** і **Жданок**, паведамляе fc-smorgon.by.

### Турысты – пятыя ў вобласці

**МЯДЗЕЛ**. Першынство Мінскай вобласці па турыстска-прыкладным мнагаборстве ў тэхніцы турызму адбылося 9-11 красавіка. Праходзілі спаборніцтвы ў пасёлку Ратамка Мінскага раёна.

Складаліся яны з элементаў арыентавання, пераадолення разнастайных перашкод.

Каманда Мядзельскага раёна заняла пятае месца, паведаміла метадыст цэнтра турызму раёна **Людміла Верабей**.

Складалася каманда з вучняў Нарацкай сярэдняй школы №1.

### Былы гулец зборнай Беларусі згуляе за "Смаргонь"

**СМАРГОНЬ. Аляксей Скварнюк** падпісаў кантракт з футбольным клубам "Смаргонь". Разлічаны ён на тры месяцы.

Аляксей Скварнюк гуляў у маладзёжнай зборнай Беларусі. У 2007 годзе дэбютаваў у нацыянальнай зборнай нашай краіны. Усяго правёў за зборную сем матчаў.

Давялося пагуляць яму ў клубах "Крылы Саветаў" (Самара), "Кубань" (Краснадар), "Спартак" (Нальчык). Апошні клуб, за які ён гуляў, – "Уфа".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ХАКЕЙ

## Хакейная каманда "Дынама-Маладзечна" з'явіцца ў сезоне 2014-2015

**МАЛАДЗЕЧНА. Пачынаючы з наступнага сезона 2014-2015 года ў экстралізе чэмпіянату Беларусі па хакеі будзе выступаць новая каманда, якая атрымала назву "Дынама-Маладзечна".**

Як паведаміў "Рэгіянальнай газеце" загадчык сектара фізічнай культуры, спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама **Аляксандр Кавалёў**, каманда афіцыйна ўвойдзе ў структуру хакейнага клуба "Дынама-Мінск", стане фарм-клубам сталічнай каманды.

У аўторак, 15 красавіка, прадстаўнікі хакейнага клуба "Дынама" наведалі лядовую арэну Маладзечна, пазнаёміліся з умовамі для трэніровак. Прынялі рашэнне аб тым, што спартыўную школу дынамаўцы возьмуць пад свой патранаж. Мяркуецца, што трэніроўкі ў Маладзечне пачнуцца з ліпеня бягучага года. Сам чэмпіянат бярэ старт у жніўні.

Аляксандр Кавалёў адзначыў, што ў каманду "Дынама-Маладзечна" увойдуць маладыя гульцы "Дынама-Мінск". Узрост хакеістаў будзе 21-23 гады. Жыць і трэніравацца яны будуць у Маладзечне. Пакуль пытанне з жыллём не вырашана, як і з тым, хто ўзначаліць каманду.

– Хутчэй за ўсё, гэту пасаду зойме **Дзмітры Краўчанка,** былы галоўны трэнер Гродзенскай каманды "Нёман", але кантракт з ім пакуль не падпісаны, – тлумачыць Аляксандр Кавалёў.

У пачатку года паведамлялася, што Дзмітры Краўчанка звольнены з пасады галоўнага трэнера гродзенцаў за п'яную бойку ў аўтобусе. "Дынама-Маладзечна" стане 11-м калектывам беларускай экстралігі.

**ДАВЕДКА. Фарм-каманда** – каманда, якая з'яўляецца рэзервовай для галоўнай каманды. Фарм-клубы часта выкарыстоўваюцца для апрабоўвання маладых гульцоў і для атрымання гульнявой практыкі спартсменам.

**Наталля ТУР.**

# Камент-эксперт Rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### Дзе спалілі тысячы людзей у Красным, садзяць бульбу

Пакуль не напісалі нармальны падручнік па гісторыі Беларусі, амаль ніхто нічога не ведае пра імя Луіса Барт Маера (Louis Burt Mayer), аднаго з самых паспяховых кінапрадзюсараў пачатку эры кінаматографа, найвядомейшага амерыканскага кампазітара Ірвінга Берліна, палітыкаў Хаіма Вейцмана і Голды Мэір, мастакоў Марка Шагала і Хаіма Суціна і іншых сусветна вядомых пісьменнікаў, яўрэйскіх дзеячаў Захада, чыёй Радзімай была Беларусь, пра нас нічога не будуць ведаць і мы не будзем ганарыцца землякамі. Пакуль няма ніводнага музея культуры беларускіх яўрэяў (у Польшчы іх па некалькі на ваяводства), да таго часу не будуць ездзіць да нас турысты з Захаду, да таго часу будуць капацца вандалы-капальнікі на пахаваннях забітых яўрэяў пад выглядам кар'ераў і "садзіць бульбу". ***Мацей.***

### Склад каманды "Маладзечна-2013" – ужо не інтрыга

Вобласць сёлета таксама падзялілі на дзве зоны, па дзесяць камандаў у кожнай. Папярэдне пачнем 1 мая гульнёй у Барысаве, але гэта яшчэ не дакладна. ДзЮСШ-4.

### СК: былы старшыня Вілейскага райвыканкама злоўжываў уладай пры будаўніцтве свайго дома

Нельга так ненавідзець усіх першых асоб раёна былі ж і сярод іх чэсныя служакі: Рудакоўскі, Булгак, Галецкі, Нікановіч, Юдо, Абрамаў, Валадкевіч. Той жа Дзягілеў, пакуль не з'ехаў у Мінск, катэджа сабе не пабудаваў. ***Леапольд.***

Каробчыц, як кіраваў сацсферай раёна, таксама нічога благога нікому не зрабіў, не замінаў у працы іншым, нічога і сабе не пабудаваў. ***Гена.***

### Маладзечанец скраў у жанчыны заплечнік, а мабілу пакінуў на месцы злачынства

Рабаўнік не знайшоў кашалёк... Тут сама з цяжкасцю ў сумачцы знаходзіш кашалёк (я ўжо маўчу пра ключы і памаду). ***Ксенія.***



## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 2 | | | | | 6 | | |
| | 5 | 3 | | | | | | |
| 4 | 7 | | | 6 | 3 | | 9 | |
| | 8 | | 1 | | | 5 | | |
| | | | 8 | | 4 | | | |
| | | 4 | | | 7 | | 8 | |
| | 9 | | 4 | 7 | | | 2 | 8 |
| | | | | | | 4 | 7 | |
| | | 5 | | | | | 3 | |



Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота Насткі РОЎДЫ.

**Як толькі ў Маладзечне выглядае сонца, на вуліцу выбіраюцца яго жыхары — ад самых маленькіх да самых дарослых. Дзяўчынка на фота знайшла сабе добрую забаву. Яна корміць птушак. Фота зроблена каля кінатэатра "Радзіма".**

## ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЕ

### Ці чытаеце вы кнігі?

| | |
|---|---|
| 28%: | Некалькі старонак у дзень абавязкова |
| 23% | Набыў сабе электронную кнігу, цяпер як ёсць хвілінка, то чытаю |
| 18%: | Кнігу з рук не выпускаю |
| 18%: | Няма нічога цікавейшага, чым навіны ў сацсетках |
| 7%: | Ужо даўно не чытаю, а слухаю аўдыёкнігі |
| 2%: | Чытаю толькі аб'явы на слупах |

Rh.by

Усяго галасоў 38

## РЭПЕРТУАР

### Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

Камедыя, прыгоды "**Хуткі "Масква-Расія"**", (Расія, 2014)
18 красавіка – у 21:00
19 красавіка – у 19:00, 21:00
20 красавіка – у 16:00, 21:00
21 красавіка – у 19:00
22 красавіка – у 21:00
23, 24 красавіка – у 19:00
Кошт білета – 40 000 рублёў.

Анімацыйная камедыя "**Рыа 2**" 3D (ЗША, 2014, без узроставых абмежаванняў)
18 красавіка – у 16:30
19, 20 красавіка – у 13:30
24 красавіка – у 17:00
Кошт білета – 30 000 рублёў.

Фантастычны баявік, прыгоды "**Першы мсціўца: Другая вайна**", 3D (ЗША, 2014, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
18 красавіка – у 18:30
19 красавіка – у 16:00
20 красавіка – у 18:00
21 красавіка – у 21:00
22 красавіка – у 18:30
23, 24 красавіка – у 21:00
Кошт білета – 55 000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*
Гумарыстычны часопіс "**Ералаш №264-272**"
19, 20 красавіка – у 14:00
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Фантастычны трылер "**Вій**" (Расія, Украіна, 2013, дзецям да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
18 красавіка – у 16:00, 21:30
19 красавіка – у 19:00, 21:30
20 красавіка – у 16:00
22, 23 красавіка – у 21:30
24 красавіка – у 19:00
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Драма, прыгоды "**Лекар: Вучань Авіцэны**" (Германія, 2013, прагляд дазволены гледачам, якім за 16)
18 красавіка – у 18:30
19 красавіка – у 16:00
20 красавіка – у 18:30, 21:30
21 красавіка – у 21:30
Кошт білета – 35 000-40 000 рублёў.

Баявік, драма "**Уцалелы**" (ЗША, 2013 прагляд дазволены гледачам, якім за 16)
22, 23 красавіка – у 19:00
24 красавіка – у 21:30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

### Мінскі абласны драматычны тэатр

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*
ПРЭМ'ЕРА. "**Падобны на Стынга**" (рэтра ў 2-х частках), Ірына Пісьменная
25 красавіка – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.

*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7,*
тэл: **76-17-32, 75-24-17.**
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/

## ГАРАСКОП
**(18-24 КРАСАВІКА)**



**Авен.** Вам трэба быць больш уважлівым і не лунаць у аблоках. Аднак аднясіцеся да ўсяго, што адбываецца, з вядомай доляй лёгкасці.



**Цялец.** Ваша ўменне хутка ўнікаць у сітуацыю і браць яе пад кантроль выкліча ўсеагульнае непадробнае захапленне. Паспрабуйце раскрыць свае ўнікальныя таленты, асабліва ў сферы зносін.



**Блізняты.** Вам выпадае адзін з тых рэдкіх шанцаў, якія становяцца прычынай маштабных кар'ерных узлётаў. Будзьце гатовыя крута памяняць свой лад жыцця.



**Рак.** Калі вам захочацца абнавіць дамашнюю прастору, захочацца стварыць камфортную атмасферу для ўтульнага адпачынку, то дзейнічайце – вам гарыць зялёнае святло.



**Леў.** Удзяліце час дому, займіцеся бытавымі пытаннямі і, відома, падрыхтоўкай да Вялікадня. Падключыце да гэтага і другую сваю палавінку, гэта ўмацуе адносіны.



**Дзева.** Вас чакае перыяд абнаўлення. Вы адчуеце ўзмацненне энергетыкі, настрой будзе аптымістычны.



**Шалі.** Поспех будзе з вамі ва ўсіх справах. Станоўчыя эмоцыі, новыя знаёмствы, цікавыя сустрэчы – гэта ўсё чакае вас наперадзе.



**Скарпіён.** Не прыдзірайцеся па дробязях да сваіх спадарожнікаў жыцця і не спяшайцеся ставіць крыж на вашых адносінах. Хутка ўсё наладзіцца, толькі дайце адзін аднаму час. А каб не раздражняцца па дробязях, ідзіце ў адпачынак.



**Стралец.** Самае лепшае, што вы можаце зрабіць – гэта наладзіць адносіны з любімымі людзьмі.



**Казярог.** Звярайце свае "напалеонаўскія" планы з рэальным станам спраў і не патурайце сваёй "авантурнай жылцы".



**Вадалей.** Вам цяпер пара звярнуць увагу на свой знешні выгляд. Не таму, што ўсё так дрэнна, проста ў вас нарэшце з'явяцца і грошы, і час для гэтага. Купіце некалькі якасных сродкаў для ўвільгатнення і ачышчэння скуры, зрабіце маскі. І ўжо праз тыдзень вы пачуеце: "Як вам так удаецца цудоўна выглядаць?!"



**Рыбы.** На першы план выступяць уласныя фінансы, сяброўства і каштоўнасці. Вам захочацца разбагацець. А калі такая думка закрадваецца – гэта ўжо крок да мэты.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

9 771991 715006

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

**Камент-эксперт Rh.by**

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

## НАДВОР'Е

**19 красавіка, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +5 / +11 | | +9 / +18 | | +10 / +17 | | +10 / +17 | |
| | 742 | ↖ 5 | 745 | ← 6 | 743 | ← 6 | 739 | ← 5 |
| Вільня | +3 / +12 | | +8 / +17 | | +10 / +18 | | +10 / +17 | |
| | 748 | ↖ 5 | 753 | ← 4 | 751 | ← 5 | 747 | ← 4 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с, Усход, захад па Маладзечне

Усход 6.00
Захад 20.23
Даўжыня дня 13.53

Усход 0.11
Захад 8.40
Квадра 3




## ПРЫКМЕТЫ

- У красавіку мокра – грыбное лета, навальніца – да цёплага лета і да ўраджаю грыбоў.
- Анціп (24 красавіка) ваду распусціў.

## Чытайце праз тыдзень:

**Што такое Рада Еўропы і якое значэнне яна можа мець для Беларусі? Якія высновы прывезла са Страсбурга карэспандэнт "РГ", чытайце ў наступным нумары.**

## А ВЫ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

* Акулы могуць жыць да ста год.
* У Турцыі прозвішчы ўвялі ў 1935 годзе.

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Ці зможаце вы адрозніць махляра ад чалавека, які хоча вам дапамагчы?

**Эліна Мялешка, студэнтка:**



– Можна адрозніць, але гэта такая рэдкасць сустрэць чалавека, які шчыра хоча дапамагчы. Цяпер дапамога ўспрымаецца, нібы яна мае нейкі падвох ці нешта чакаюць у адказ на яе.

**Ганна Пятровіч, настаўніца:**



– Адрозніць можна, але, на жаль, не адразу. Заўсёды сустракаюць па адзежы, а ўжо потым разбіраюцца, хто і што з сябе ўяўляе.

**Іван Букрэеў, электрык:**



– Так, відаць адразу па чалавеку, па яго паводзінах, позірку і ўвогуле па вачах. Махляр будзе, хутчэй за ўсё, неадчэпны і надакучлівы.

**Эліна Ілаш, мастачка:**



– Махляра адрозню адразу па паводзінах і голасе. Махляр будзе гаварыць сумніўнымі фразамі і ўвогуле будзе падазрона выглядаць.

**Юры Янецкі, навучэнец:**



– Не, на тое, каб адрозніць, трэба час. Махляры, як правіла, дапамагаюць, каб увайсці ў давер і зрабіць сваю махлярскую справу.

**Падрыхтаваў Алесь ДЗЯМІДЧЫК, школа маладых журналістаў пры рэдакцыі "РГ".**



**Рэгіянальная газета. Rh.by** Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 16 (990) 18.04.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці №02330/85 от 23.01.14 г. да 29.03.2019. Зак. 341. Падпісана ў друк у 10.00 17.04.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.